№ 164 (1727)
Серада, 3 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +6...+8, дождж, уначы — +5...+7, дождж; у Брэсце ўдзень — +9...+11, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +10...+12, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +5...+8, дождж; у Гомелі ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +9...+11, дождж.

*www.meteo.by*



# «Лясная школа» ў цэнтры Мінска

*Прахожы, якія шпацыравалі ўчора ўздоўж стадыёна "Дынама" з боку вуліцы Кірава ў Мінску, былі крыху здзіўлены радамі драўляных лавак, на якіх сядзелі прама пад адкрытым небам са сшыткамі ў руках больш за 120 дзяўчат і хлопцаў школьнага ўзросту. Юнакі ўважліва слухалі сваіх выкладчыкаў, нешта запісвалі ў свае блакноты, з энтузіязмам адказвалі на пытанні.*

Нічога дзіўнага! Усё нармальна для Беларусі пачатку XXI стагоддзя! Улады зачынілі Беларускі дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа, а яго выкладчыкі і бяссменны лідэр Уладзімір Колас і не думаюць здавацца. Яны звычайна выконваюць свой грамадзянскі абавязак — даюць веды тым, хто хоча іх атрымаць.

Як паведаміў мне Лявон Баршчэўскі, адзін з намеснікаў Уладзіміра Коласа, учора напрыканцы заняткаў навучэнцаў планавалася правесці па музеях. А з раніцы ліцэісты прама пад ліпамі вывучалі фізіку, матэматыку, літаратуру, англійскую мову і іншыя дысцыпліны. І нішто, здаецца, не перашкодзіць заняткам і ў далейшым. Мусіць, толькі дождж?

Я ўпэўнены: такой школы няма ні ў адной еўрапейскай краіне.

**Алесь СІЛІЧ.**





**ПУЛЬС**

## Праігнаравалі даручэнне прэзідэнта

Амаль палова раёнаў Мінскай вобласці не забяспечыла выкананне даручэння прэзідэнта па своечасовых разліках за спажываемыя энерганосьбіты. Як паведаміла БелаПАН начальнік упраўлення інфармацыі аблвыканкама Таццяна Дзедух, не разлічыліся за прыродны газ Лагойскі, Валожынскі і Барысаўскі раёны, за электраэнергію — Уздзенскі, Чэрвенскі, Бярэзінскі, Лагойскі, Смалявіцкі, Барысаўскі, Старадарожскі, Капыльскі, Маладзечанскі і Мядзельскі раёны. Не дасягнуты таксама ўстаноўлены паказчык па энергазберажэнні.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

## Забілі чалавека, могуць расстраляць і іх

Брэсцкі абласны суд прыступіў да разгляду справы аб забойстве дырэктара РУП "Інтэраўтатранс" **Міхаіла ЗУБАВА.**

Ён быў забіты 24 студзеня 2002 года пасля нарады, на якой разглядаліся пытанні выдачы дазволаў пасажыраперавозчыкам. Каля 18 гадзіны два невядомых збілі яго непадалёк ад дома па вуліцы Арлоўскай, дзе жыве сям'я Зубава. У выніку траўм, атрыманых ад удараў хакейнай клюшкай і металічным прутам, Міхаіл Зубаў памёр.

Хутка былі затрыманы падазроныя — раней неаднаразова судзімыя мясцовыя жыхары Баграт Гаглідзе і Мікалай Самахвалаў. Падчас следства яны патлумачылі, што два індывідуальных прадпрымальнікі — Ігар Ганчароў і Юрый Грыгарук, якія таксама ў мінулым мелі судзімасці, за 300 долараў папрасілі іх "папалохаць" Зубава, аднак выканаўцы перастараліся і забілі чалавека.

Гаглідзе і Самахвалаў, якія ўтрымліваюцца пад вартай, абвінавачваюцца па шэрагу пунктаў часткі 2 артыкула 139 Крымінальнага кодэкса Беларусі ("забойства"). Індывідуальныя прадпрымальнікі Грыгарук і Ганчароў — па артыкуле 16 ("саўдзел у злачынстве") і частцы 3 артыкула 339 ("хуліганства"). Ігар Ганчароў на першае судовае пасяджэнне не з'явіўся, бо напярэдадні трапіў у бальніцу з сардэчным прыступам.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Генадзь Фядыніч судзіцца з Леанідам Козікам

На 4 верасня ў Мінскім гарадскім судзе прызначаны слуханні па іску аб абароне гонару і годнасці лідэра Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзя Фядыніча да старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) Леаніда Козіка і газеты ФПБ "Беларускі час".

20 чэрвеня газета апублікавала справаздачу з прэс-канферэнцыі Л.Козіка аб выніках працы афіцыйнай беларускай дэлегацыі на 91-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы ў Жэневе. На прэс-канферэнцыі Леанід Козік заявіў, што Генадзь Фядыніч "заклікаў ужыць да Беларусі эканамічныя санкцыі".

Лідэр прафсаюза РЭП гэта адмаўляе. Яшчэ ў чэрвені ён прапанаваў рэдакцыі "Беларускага часу" апублікаваць поўны тэкст свайго выступлення ў Жэневе, папярэдзіўшы, што ў адваротным выпадку прад'явіць іск да газеты аб абароне гонару і годнасці.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Будуць і гімназія, і ліцэй

Пачатковая школа №216, размешчаная ў сталіцы па вуліцы Л.Украінкі, 8/3, і сярэдняя школа №175 па вуліцы Л.Украінкі, 2 аб'ядналіся і сталі гімназіяй №16 з агульнаэстэтычным ухілам і паглыбленым вывучэннем замежнай мовы.

Да 1 лістапада Мінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча (ПТВ) № 11 па вуліцы Маякоўскага, 123, шляхам далучэння да яго міжшкольнага навучальна-творчага камбіната ўпраўлення адукацыі адміністрацыі Ленінскага раёна па вуліцы Рыбалкі, 6, будзе перайменаванае ў Мінскі дзяржаўны прафесійны ліцэй (МДПЛ) № 2 лёгкай прамысловасці.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Вольны Мажэйка

1 верасня скончыўся тэрмін пакарання журналіста зачыненай гродзенскай газеты "Пагоня" Паўла Мажэйкі, які быў асуджаны на два гады абмежавання свабоды за паклёп на прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнку.

Шэсць месяцаў П.Мажэйка правёў на жлобінскай "хіміі", дзе працаваў на лесапілцы. Затым суд змяніў журналісту пакаранне на больш мяккае, і Мажэйка вярнуўся дахаты ў Гродна "ўмоўна датэрмінова". Яшчэ год пакарання быў скасаваны па амністыі.

Апошнія тыдні Павел Мажэйка займаецца аднаўленнем гродзенскай прапіскі, пашпарта і дазволу на выезд ва ўсе краіны свету, якіх ён быў пазбаўлены на тэрмін пакарання.

Ужо некалькі месяцаў Мажэйка ўзначальвае гродзенскі філіял ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў". Іншай працы ён пакуль не мае. "Я зразумеў, што чалавек з такой біяграфіяй не патрэбны", — паведаміў ён сваім калегам.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ.**

**СБЫЛОСЬ БЫ!**

# Депутат Фролов предлагает в три раза снизить коммунальные платежи

Депутатом Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь В.Д.Фроловым разработан проект Закона "О снижении квартирной платы и тарифов на жилищно-коммунальные услуги". Будет ли он рассматриваться парламентариями — неизвестно. Но известно то, что данный документ опальный генерал направил для оценки во все заинтересованные ведомства.

Что предлагает Валерий Фролов?

"Снизить в три раза установленные по состоянию на 1 октября 2003 года коммунальные платежи:

платежи за пользование жилой площадью (жилым помещением) (ставки квартирной платы или платы за техническое обслуживание и капитальный ремонт жилого помещения, а также аналогичные платежи);

платежи за жилищно-коммунальные услуги (тарифы на горячее и холодное водоснабжение, канализацию, газоснабжение, электрическую и тепловую энергию, лифты, вывоз и обезвреживание твердых бытовых отходов, другие услуги)".

По мнению депутата Фролова, следует "установить, что после 1 октября 2003 года коммунальные платежи могут повышаться только пропорционально повышению средней заработной платы работников республики Беларусь за соответствующий период".

И еще: "Начисление пени за просрочку коммунальных платежей не производится в отношении плательщиков, которым и (или) членам семьи которых заработная плата, пенсия или иные виды основного дохода за соответствующие месяцы не были выплачены в полном объеме по вине организаций, производящих такие выплаты".



Если бы голосовали квартироплательщики, они бы явно поддержали известного парламентария. А вот поддержат ли его коллеги по палатам Национального собрания?

**Николай СТАРЧЕНКО.**

## Рост средней заработной платы, квартирной платы и тарифов на жилищно-коммунальные услуги в Республике Беларусь

*(Расчеты сделаны по просьбе депутата Фролова)*

| НАИМЕНОВАНИЕ | РАЗМЕР | | | 2003 год к (опережение роста средней зарплаты) | |
|---|---|---|---|---|---|
| | июль 2000 г. | июль 2001 г. | июль 2003 г. | 2001 году (за два года) | 2000 году (за три года) |
| Средняя заработная плата работников (тысяч рублей) | 59,6 | 138,7 | 262,6 | 189,32%(-) | 440,6% (-) |
| Платежи за пользование жилой площадью (техобслуживание) (рублей за 1 м²) | 4,86 | 10,67 | 68,73 | 644,14% (в 3,4 раза) | 1414,2% (в 3,2 раза) |
| и отчисления на капремонт (рублей за 1 м²) | 2,43 | 5,33 | 68,73 | 1289,49% (в 6,8 раза) | 2828,4% (в 6,4 раза) |
| Тарифы на электрическую энергию для населения (в доме с электроплитой) (рублей за 1 кВт/ч) | 5,2 | 12,6 | 49,8 | 395,24% (в 2,1 раза) | 957,69% (в 2,2 раза) |
| Тарифы на отопление (подогрев воды) (рублей за 1 Гкал) | 582 | 4941,8 | 25423,8 | 514,46% (в 2,7 раза) | 4368,35% (в 9,9 раза) |
| Цены на природный газ (в месяц на 1 человека) | 70,9 | 185 | 1139,6 | 616% (в 3,3 раза) | 1607,33% (в 3,6 раза) |
| Тарифы на водоснабжение и канализацию (рублей за 1 м³) | 34,4 | 76,7 | 204 | 265,97% (в 1,4 раза) | 593,02% (в 1,4 раза) |
| Тарифы на лифты (в месяц за 1 человека) | 42,36 | 92,99 | 819,68 | 881,47% (в 4,7 раза) | 1935,03% (в 4,4 раза) |
| Тарифы на вывоз и обезвреживание твердых бытовых отходов (в месяц за 1 человека) | 35,5 | 133,49 | 444 | 332,61% (в 1,8 раза) | 1250,7% (в 2,8 раза) |

В *целом рост квартирной платы и тарифов на жилищно-коммунальные услуги опередил рост средней заработной платы за 3 года более чем в 5 раз, за 2 года — в 3,1 раза.*

**БЫВАЕ І ТАКОЕ...**

## І бяда адступае, калі на дапамогу прыходзяць добрыя людзі

Бяда, як гэта часта здараецца, напаткала Валянціну Паповіч раптоўна. Нечакана ўспыхнуў маленькі кухонны балончык з газам, якім у летні час карысталася для гатавання ежы фермерская сям'я з вёскі Камунарка Віцебскага раёна.

Гаспадыня стала заліваць пажар вадой з вядра, але ад гэтага агонь разгарэўся мацней, хутка перакінуўся на хату, замітусіўся на даху, страляючы шыферам. Праз некалькі хвілін ужо гарэў свінарнік — найвялікшае багацце Паповічаў. Мабілізаваўшы ўвесь свой спрыт, Валянціна Міхайлаўна паспела выгнаць частку парсючкоў на падворак, а астатніх (усяго іх было 40) проста выкінула ў вокны. Тым часам брат і сын гаспадыні разам з двума рабочымі фермы ратавалі дарослую жылёлу: 15 свінаматак, 33 рамонтныя свінні, кныроў і маладых адкормачнікаў. Агонь бушаваў, і людзям было вельмі цяжка змагацца з ім. На шчасце Паповічаў, ім, як сваякам, самаадданa дапамагалі шматлікія суседзі. Выратавальнікам замінала тое, што ў бліжэйшай проціпажарнай вежы не аказалася вады: усю яе ўжо скарысталі на пашу.

Калі прыехалі пажарныя, агонь адступаў. Змагаючыся з ім, Валянціна Паповіч атрымала апёкі, і пажарныя адвезлі гераічную жанчыну ў бальніцу. І пасля таго, як з пажарам было пакончана, сям'я Паповічаў не засталася без дапамогі добрых людзей. Замежны фермер, які ў свой час гасцяваў у беларускіх калег, прэзентаваў Валянціне эфектыўныя лекі ад апёкаў, а знаёмыя фермеры з Віцебскага, Мінскага і Магілёўскага раёнаў падзяліліся з пагарэльцамі грашыма. Так што Паповічы цяпер займаюцца аднаўленнем дома і свінарніка, якія ўсё ж моцна пацярпелі ад агню.

Немалаважная дэталь: калі Валянціна Міхайлаўна лячылася ў апёкавым аддзяленні абласной бальніцы, там жа знаходзілася яшчэ шасцёра людзей, пацярпелых ад маленькіх газавых балончыкаў. Відаць, гэтыя бытавыя вырабы мелі сур'ёзны дэфект, які не быў заўважаны ні вытворцам, ні прадаўцом.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Прамываць мазгі, магчыма, будзе не проста доктар, а ветэрынарны доктар

Ва ўчарашнім нумары Уладзімір Глод надрукаваў інфармацыю "Доктар Арда будзе прамываць мазгі?". Па версіі аўтара, цяперашні першы сакратар БРСМ Міхаіл Арда можа заняць пасаду начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта. Сказана, што па прафесіі ён доктар. Удакладнім, доктар ён ветэрынарны. У свой час закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут.

Што ж, у нашай краіне і ветэрынарны доктар можа займацца ідэалогіяй.

**НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ**

# Как «Обозреватель» Сергея Атрощенко по-бандитски обошелся с Леонидом Левиным

Многое повидал на своем веку известный архитектор, лауреат Государственной премии, один из авторов мемориального комплекса "Хатынь", руководитель еврейского общества Леонид Левин. Но не ожидал он, что такое придется пережить на склоне лет.

А связаны неприятности с недавним появлением в тенденциозной газетенке "Обозреватель" его интервью. Впрочем, вот фрагменты письма, отправленного шеф-редактору "Обозревателя" С.Атрощенко, тому самому, который не так давно неприлично разошелся с коллективом "Свободных новостей", учредителем которых был много лет.

*"15 августа в вашей газете "Обозреватель" была опубликована "беседа" со мной корреспондента газеты Анны Муравской. При встрече присутствовал фотокорреспондент Алексей Матюша.*

*Встреча происходила 12 августа вечером в Еврейском доме после заседания правления Еврейского благотворительного фонда "Хэсэд-Рахамим"...*

*Мы пили чай, и я отвечал на вопросы Муравской, которая все записывала на диктофон.*

*Одним из наводящих был вопрос об антисемитизме.*

*Я отметил, что государственного антисемитизма у нас нет, но личностный — остался. Говорил, что тревожит не факт "бытового" антисемитизма, а то, что эту позицию занимают некоторые государственные служащие, которые нередко выступают в СМИ.*

*Как пример привел депутата Костяна. К нему добавил и Скобелева.*

*Однако ваша газета, корреспондент решили эту тему создать по-своему..."*

Удивлению и возмущению известного архитектора не было предела, когда он прочитал в газете рядом с фамилиями Костяна и Скобелева фамилии известных депутатов Новосяда и Фролова, которые якобы также проповедуют "нелюбовь к евреям везде, где бы они ни находились...".

*"Я не только не говорил этих слов, но и не мог подумать поставить рядом с фамилией Костяна людей, которые* **никогда и нигде** *не проявляли признаков антисемитизма, — Новосяда и Фролова",* — написал Л.Левин. И дальше:

*"Это — провокация со стороны газеты по отношению ко мне..."*

*"Выражаю свой* **решительный протест".**

Действительно, "Обозреватель" с ног до головы обгадил уважаемого человека: *"Фамилию Новосяда я вообще в беседе не называл, фамилию Фролова назвал, когда говорили совсем о другом — об открытии памятного знака Василю Быкову в Старых Дорогах.* **Никогда и нигде не причислял этих людей к антисемитам".**

Да и как их можно причислять к антисемитам, если тот же Новосяд направил запрос в Минкульт относительно незаконного разрушения синагоги на ул.Димитрова, 3, подписал коллективное письмо в прокуратуру по тому же поводу, его подпись стоит среди подписей 75 депутатов "палатки", выступивших против разрушения объектов белорусского и еврейского историко-культурного наследия в Минске.

Генерал Фролов не только подписал два вышеназванных письма, но и пошел в суд, чтобы поддержать защитников синагоги. Депутат Фролов был и на митинге памяти евреев, которые погибли в минском гетто. Он направил вместе с другими депутатами протест против юдофобских и антимусульманских высказываний Костяна в декабре 2002 года.

Леонид Левин считает, что газета Сергея Атрощенко поступила с ним по-бандитски. Он требует от того же С.Атрощенко дать опровержение в газете и извиниться. Рассчитывает он и на то, что его письмо будет опубликовано, как и дословный текст интервью, снятый с магнитофонной пленки. Хотя в телефонном разговоре С.Атрощенко дал понять, что аудиозапись не дадут и никакого опровержения не будет, а суд Левину не поможет.

Если бы подобное случилось с любой другой негосударственной газетой, тут как тут свое слово сказала бы власть. Но в данном случае все делают вид, что ничего страшного не произошло. Почему такое всепрощение С.Атрощенко, можно только догадываться. В таком случае газету "Обозреватель" можно назвать другим словом. И нетрудно понять, для каких целей она создана и опекается властью.

**Антон КУЗНЕЦОВ.**



# Вертикальное хамство

***30 августа в г.Ганцевичи, применив физическую силу, выставили из актового зала музыкальной школы, где проходила конференция работников образования, корреспондента газеты "Ганцавіцкі час" Петра Гузаевского.***

Обычная конференция учителей, работников детских садов и спортивной школы не предвещала никакой сенсации. Поначалу все проходило в обычном стиле: выступали докладчики, делились опытом, говорили о проблемах. Но после полуторачасовых выступлений, когда слово предоставили председателю райисполкома Владимиру Столяру, зал оживился. Владимир Михайлович заявил, что информация, которая будет им озвучена, не должна попасть в СМИ.

Но это обращение, как оказалось, было адресовано лишь одному человеку — корреспонденту газеты "Ганцавіцкі час" Петру Гузаевскому, которого председатель райисполкома потребовал покинуть актовый зал. Однако журналист, не впервые сталкивающийся с подобными обращениями чиновников, сославшись на ст.34 Конституции РБ и статьи 32 и 39 Закона "О печати и других средствах массовой информации", ответил, что информация о деятельности государственных органов является открытой, и покинуть зал отказался. Тем более что кроме него в зале находились и другие представители СМИ: аж три работника официальной районной газеты "Савецкае Палессе" вместе с редактором. От них, прислужников вертикали, не требовали покинуть помещение.

Настоятельные просьбы председателя райисполкома о том, чтобы сотрудник "Ганцавіцкага часу" вышел из зала, успеха не принесли. Чиновник, по-видимому, не предполагал, что ход мероприятия пойдет не по его сценарию. Пауза затянулась. И тут на помощь В. Столяру пришел заместитель заведующего районным отделом образования по финансово-хозяйственной части Михаил Пищ, который, стремясь выслужиться перед главным вертикальщиком района, с угрожающим видом подошел к корреспонденту, грубо схватил его за одежду и рывком потянул к выходу. Все это происходило на глазах у около двухсот человек, которые были возмущены такими действиями должностных лиц. "Да разве так можно? — послышались возгласы из зала. — Постыдитесь, ведь вы же интеллигентные люди!" Только "интеллигента" из РОО это не остановило, и в итоге ему удалось вытянуть представителя прессы из помещения.

Мероприятие сразу утратило свою торжественность. В зале началось обсуждение инцидента. Страсти потихоньку улеглись. Любопытство, что же секретного скажет глава района, взяло верх над эмоциями, и участники конференции успокоились. Однако в своем выступлении председатель райисполкома ничего секретного так и не выдал, кроме одного неоднозначного высказывания, заявив, что в следующий раз они будут действовать по-другому.

**Павел БОГУШ.**

*г.Ганцевичи.*

